

## АСЬВЕДЧАНЬНЕ

Вітаючы Дэклярацыю аб Сувэрынітэце Беларускай С.С. Рэспублікі, прынятай Найвыжэйшай Радай 27-га ліпеня 1990 году, як першы крок на шляху да ўрэчаісьненьня Незалежнасьці Беларусі і вызваленьня Беларускага Народу ад каляніяльнай падлеглясьці, мы верым, што Беларусь станецца вольнай і незалежнай дзяржавай ў шэрагу Вольных Дзяржаваў Эўропы.

Няхай Жыве Вольная,
Незалежная Беларусь!

КАМІТЭТ ВОЛЬНАЕ БЕЛАРУСІ

## «НАШАЕ СЛОВА»

Як ужо падавалі: у сакавіку гг. пачаў выходзіць месячнік Таварыства Беларускай Мовы, заложанага летась — «Нашая Мова». У нумары 2 «Нашага Слова» за красавік сёлеташняга году зьмешчаны зацемкі У. Слабіна з г. Гомлі. «Незразумела, крыўдна і страшна»... Аўтар піша: мне не зразумела, чаму на ўвесь гарадок існуюць толькі дзьве беларускамоўныя шыльды — на чыгуначнай станцыі, ды на будынку радакцыі... Мне не зразумела, куды падзеліся беларускамоўныя ўказальнікі населеных пунктаў, што існавалі ў 70-ыя гады? На ўвесь раён ёсьць адзін указальнік «Віцебская вобласьць» на шэрай пліце на мяжы БССР і РСФСР... Мне не зразумела, чаму я, грамадзянін БССР, не магу ў сваім горадзе набыць і адправіць паштоўку, ці канверт, або тэлеграму па-беларуску... Мне не зразумела, чаму ў трыццацітысячным беларускім горадзе няма ніводнае беларускай школкі?.. Мне крыўдна, што школьны настаўнік беларускае мовы, за адну і тую-ж колькасьць гадзін зарабляе меньш за свайго «рускамоўнага» калегу. І гэта няўмольны і ганебны факт... Мне крыўдна, што мы ўсё яшчэ вывучаем гісторыю БССР па нікчэмнаму падручніку Абэцэдарскага, засвойваем яго хлусьлівыя стэаратыпы і, як вынік ня ведаем уласнай багатай гісторыі... Восьжа ня гледзячы на прыняты Закон аб дзяржаўнасьці Беларускае мовы і іншыя папяровыя пастановы, як бачым нічога на бацькаўшчыне не палепшваецца і не палепшае пакуль да ўлады не прыдзе Беларускі народ, скінуўшы пануючу дагэтуль там Камунафашыстоўскую русафільскую мафію.

«Нашая Мова» падае шмат цікавых вестак і разважаньняў аб Беларускай мове і прыдасца кожнаму Беларусу на эміграцыі, каму доля бацькаўшчыны і свайго народу не абыякавая. Часапіс да нас даходзіць. Вось ягоны адрас: СССР-**БССР, 220005 Мінск. Румянцава 13,** «Родная Мова». Становішча роднае мовы на бацькаўшчыне акрэсьлівае тыраж воргану Т-ва Беларускае Мовы: — ўсяго 10,000 паасобнікаў на 10 мільёнаў Беларусаў! А ўжо няяк воргану Таварыства, дбаючага аб Беларускай мове, прытрымоўвацца накінутага для асыміляцыі Беларусоў — калечачага Беларускую мову правапісу, злашча выкіненьня мягкага знаку, зразумела без параборшчваньняў др. Янкі Станкевіча з ягоным «зь» ў прыстаўцы, як пачала ўжываць частка эміграцыі.

Трэба прывітаць стварэньне Таварыствам адумыснай Камісыі па Сувязях з Суайчынньнікамі за Межамі Рэспублікі. Трэ' спадзявацца, што ня толькі на тэрыторыі СССР, але і ўва ўсім вольным сьвеце.

### СУПАЛКІ ТБМ ЗА МЯЖОЙ

/паводле «Нашага Слова»/

**Т-ва Беларускай Культуры імя Францыска Скарыны ў Маскве**

**Крымская Сябрына Беларусаў імя Максіма Багдановіча**

**Беларускае Культурнае Т-ва ў Кохтля Ярве /Эстонія/**

**Ленінградскае Т-ва Беларускай Мовы імя Ф. Скарыны**

**Беларускае Культурнае Т-ва «Грунвальд» ў Таліне /Эстонія/**

**Сябрына «Беларусы Сыбіры» ў Новасыбірску**

**Т-ва Беларускай Культуры «Сьвітанак» Ў Рызе /Латвія/**

**Беларускае Культурнае Т-ва «Сябрына» ў Вільні**

**Т-ва Беларускай Мовы імя М. Багдановіча ў Запарожжы /Украіна/**

**Таварыства Беларускай мовы ў Беластоку /Польшча/**

**Беларускае Зямляцтва «Суродіч» ў Якуцку /Якуцкая Рэспубліка/**

**Т-ва Беларускай Мовы ў Вялкабрытаніі /Лондан/**

**Беларускае Т-ва ў Ляпляндыі — Мурманск**




СТЭНД ЭТНІЧНАЙ ПРЭСЫ Ў ПРЭС КЛЮБЕ ПАДЧАС МІЖНАРОДНАГА ФЭСТУ «КАРАВАН» Ў ТАРОНЦЕ

## НАЦЫЯНАЛІСТЫЧНЫ ШАЛ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСАЎ ПАД ПОЛЬШЧАЙ

Аўген Чыквін, пасол да Польскага Сойму з Беласточчыны, ў сваім асьведчаньні, складзеным у Сойме падае: 12-га ліпеня даканана злачыннага падпалу Царквы на Праваслаўным Сьвятым Мейсцы — Сьвятой Гары Грабарцы, 29 сакавіка падпалена Праваслаўную Царкву ў Кракаве, 12-га красавіка падпалена Царкву ў Нарве, 17-га красавіка зьбяшчэшчана іншае Сьвятое мейсца Праваслаўя: Капліцу ў Крыначчы каля Гайнаўкі. На працягу апошніх некалькі гадоў згарэлі Цэрквы ў Клейніках, Чыжах, Ячне, Крушынянах, два разы падпальвана новабудаваную Царкву Сьв. Духа ў Беластоку.

Пасол сьцьвярджае, што да Ўладаў ужо два разы зварачваліся прадстаўнікі Нацыянальных Мяньшынь, але без выніку! Пасол Аўген Чыквін дамагаецца звароту будынкаў Праваслаўнаму Манастыру ў Супрасьлі, забраных ад яго яшчэ Камуністычнымі ўладамі, але і не зварочваных і сяньня Дэмакратычным Урадам Польшчы.

## ЯНЫ ЎСЕ НЯ ТОЛЬКІ НЕ ГАВОРАЦЬ ПА БЕЛАРУСКУ, АЛЕ І ДУМАЮЦЬ ТОЛЬКІ ПА РАСЕЙСКУ!

/С. Дубавец- «Родная Мова»/ ... Штодзенная Абласная, партыйная газэта «Гомельская Праўда» /можна — «Віцебскі Рабочы», можна — «Магілёўская Праўда»/ 40 работнікаў гэтай газэты ніколі не гаворань і ня думаюць па Беларуску. Пішуць, адразу перакладаюць сябе з рускай мовы, альбо перакладае машыністка, якая таксама ніколі ня думае і не гаворыць па-Беларуску /Аўтарытэт у спрэчных сытуацыях — Руска-Беларускі двутомнік, дзе Рускае слова, як правіла, перакладаецца двумя словамі Беларускім і трасянкай... Тое самае ў Рэспубліканскіх газэтах і ў раёнках. Тое самае на радыё і тэлевізыі. Тое самае на БЕЛТА... /тэлеграфічная агенцыя/.

## НЬЮЁРСКІ «ВАСІЛЁК» НА БЕЛАРУСІ

Гурток Беларускае Мастацкае Самадзейнасьці «Васілёк», які на запрошэньне Т-ва «Радзіма» наведаў БССР, даў там 10 канцэртаў, у тым два ў Менску, цёпла прыманыя мяйсцовымі жыхарамі. У паездцы на Беларусь узяла удзел 17 сяброў Гуртка на чале з ягонай заснаўніцай Алай Орсай-Рамана і шасьцёх студэнтаў з Беласточчыны з-пад Польшчы, якія бралі удзел летась у выступах «Васілька» на Беласточчыне. «Васілёк» прывез і перадаў ахвярам Чарнабылю 400 кіляграмаў лекаў.

## З ДЭКЛЯРАЦЫІ ПРЫНЯТАЙ НА КАНФЭРЭНЦЫІ БНФ Ў МЕНСКУ

За год, што мінуў пасьля Ўстаноўчага зьезду БНФ «Адраджэньне», эканамічная, палітычная і грамадзкая сытуацыя ў Рэспубліцы пагоршылася. З паліц магазынаў зьнікаюць апошнія спажывецкія тавары, інфляцыя ператварыла грошы ў паперу. Апарат камуністычнай партыі ў Беларусі бяссэнсоўнай упартасьцю зацiскае гайкі, зьдзекуецца з плюралізму, галоснасьці і дэмакратыі. За год ня быў надрукаваны ніводзін афіцыйны дакумэнт БНФ.

Але затое быў прыняты антыдэмакратычны закон аб выбарах, што дазволіў партапарату ў чарговы раз фактычна захапіць уладу, паколькі склад абранага Вяхоўнага Савету БССР і мясцовых Саветаў не адлюстроўвае рэальных суданосін палітычных сілаў і памкненьняў беларускага народу.

Да сёньняшняга дня ня робіцца нічога рэальнага для выратаваньня беларускага народу ад наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

Лідэры партыйнай мафіі хутка ператвараюцца ў лідэраў новай савецкай буржуазіі.

Улады старанна ўмацоўваюць рэпрэсійны апарат — пракуратуру, суды, міліцыю. Захоўваюць свае незаконныя прывілеі. Мацуюць кругавую паруку — старанна выгароджваюць і апякаюць сваіх прадстаўнікоў, якія даўно страцілі народны давер.

Такія паводзіны сьветчаць аб канчатковай страце партыйнымі ўладамі здаровага сэнсу. Гэтым тлумачыцца зьяўленьне ультыматуму да свабоднай Літвы. Гэтым тлумачыцца пасьпешлівая рэалізацыя «незалежнасьці» пасьля атрыманьня загаду з Масквы. Сьпісваючы сваю «дэклярацыю» з праграмных дакумэнтаў БНФ, старшыня М. Дземяньцей і ягоныя памагатыя забыліся на тое, што незалежнасьць несумяшчальная з таталітарызмам.

Але спыніць рух гісторыі немагчыма. Крах таталітарнай партыйна-бюракратычнай сыстэмы непазьбежны. Супрацiўленьне яе апалягетаў, стаўленьнікаў толькі пагаршае становішча беларускага народу, нясе яму новыя беды і пагрозу нацыянальнай катастрофы.

## ПОЛЬШЧА ВІТАЕ СПРОБЫ ДА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСІ

З нагоды прыняцьця Вярхоўным Саветам БССР Дэклярацыі аб Сувэрынітэце Рэспублікі, Польскі Сэнат прыняў адумысны Зварот да Беларускага Народу, вітаючы імкненьні Беларускага народу да незалежнасьці, ды дакляруючы навязаньне далейшых суадносін між Польскім і Беларускім народам, як вольныя з вольнымі. Зварот Сэнату Рэчыпаспалітай дэкляруе:

Стоячы на пазыцыі права да самавызначэньня, з радасьцю вітаем абвешчаную 27-га ліпеня 1990 г. Дэклярацыю аб Дзяржаўным Сувэрынітэце Беларусі — выяў імкненьня Беларускага народу да незалежнасьці.

Палякі, для якіх свабода і незалежнасьць Бацькаўшчыны зьяўляюцца аснаўнымі вартасьцямі, поўнасьцю разумеюць гэты важны момант ў гісторыі Беларусі — суседа, з якім жадаем жыць як роўныя і блізкія народы. Па абодвы бакі нашае мяжы жывуць грамадзяны, якія паходзяць з Польскага і Беларускага народаў. Маем надзею, што нашае сужыцьцё будзе складацца згодна з найлепшымі традыцыямі супольнай гісторыі, якія адзначаюцца талерантнасьцяй і сужыцьцём шматлікіх культур.

## ПАЧЫНАЮЦЬ ВАЛІЦЬ ПОМНІКІ ГАЛОЎНАГА ПАЛАЧА!

Па ачышчэньні ад помнікаў Леніну, якія прымусілі паставіць усюды Сав. акупанты ў краінах Усходняй Эўропы, прыйшла чарга і на сам Савецкі Саюз. Пастановай Гарадзкіх уладаў, зьнятыя помнікі Леніна ў Коўне і Шаўлях у Літве, у Тарнопалі і ва Львове на Зах. Украіне, ў розных мяйсцох Арменіі. На аграмадным помніку Леніна ў Петрапаўлаўску на Камчатцы зьявіўся выпісаны алейнай хварбай напіс: Палач! Дэмакратычныя Дэпутаты Масквы выкінулі пагрудздзя гэтага палача з фойе залі паседжаньня ў Горсавеце.

## У. ГРЫБАНАЎ — МАЁР САВ. АРМІІ — ДЭПУТАТ ВЯРХ-САВЕТУ БССР

Сярод прайшоўшых па выбарах /а не па вызначэньні як «Вэтэраны», ці «Першыя Сакратары»/ ў Вярхоўны Савет БССР, знайшоўся і маёр Сав. Збройных Сілаў — У. Грыбанаў. Грыбанаў прайшоў у Дэпутаты наперакор замерам Камуністычных галавароў і сваіх Армейскіх Начальнікаў. Кандыдатуру Грыбанава вылучылі салдаты наперакор вярхоўкі арміі. Ён ужо быў ведамы як ініцыятар розных праектаў палепшаньня салдацкага жыцьця, пасыланых у ЦК Кампартыі, якой быў сябром. Абураны адносінамі вярхоўкі Арміі да спробаў дэмакратызацыі і ягоным перасьледам, ён пакінуў Кампартыю летась. Каб унемажлівіць яму кандыдаваць, яго безпраўна перавялі з Менску ў Новачаркаск, чаму ён супраціўіўся, а людзі выстаўіўшыя яго кандыдатам ў Вярхсавет, пачалі пікетаваць Вайсковую Управу Ваеннае Акругі з дамаганьнем скасаваньня пастановы аб пераводзе ў Новачаркаск Грыбанава, каб пазбавіць яго магчымасьці кандыдаваць. Скончылася тым, што пастанову аб пераводзе ў Новачаркаск скасавана, але і не застаўлена яго на старым мейсцы, вызначаючы новую службу ў Берасьці. Розгалас ягонае справы дапамог яму і ён быў выбраны ў Дэпутаты супроць ягонага суперніка — самога Першага Сакратара Менскага Гаркому Кампартыі — М. Місуна. Грыбанаў паходзіць са Ўсходняй Беларусі анэксаванай Расейскай Рэспублікай. Ён з Краснагорскага раёну Браншчыны, з «руска-беларускай» вёскі, як ён кажа, якая ляжыць на самай мяжы. Прычым кажа Грыбанаў, наколькі я зараз ведаю, гэта землі этнічна Беларускія. На грудзях Грыбанава значок Пагоні. Грыбанаў уважае, што армія павінна быць паза палітыкай і таму ня можа ўмешвацца і ў выбары. Ён па выбарах Дэпутатам падаўся аб звальненьне з Арміі. Да БНФ не належыць, але разам належыць да апазыцыі і галасуе разам.

## ВЫДАЛІЦЬ ПЛОЙМУ ПАЛЯНІЗАТАРАЎ БЕЛАРУСАЎ

Беларускі падсавецкі дзеяч — Каталік Анатоль Сідарэвіч дамагаецца ў «Літаратуры і Мастацтве» выдаленьня насланых цяпер ў БССР ксяндзоў з Польшчы, ён піша: Беларус, як Хрысьціянін я зьвяртаюся да Дэпутатаў Вярхоўнага Савету Распублікі з просьбай, каб яны патрабавалі выдаленьня Польскіх Місыянэраў з Беларусі. Я зьвяртаюся да Ураду: даючы згоду на адкрыцьцё Духоўнай Сэмінарыі ён павінен паставіць найпершай умовай — тую, каб будучых Каталіцкіх сьвятароў навучалі ў Беларускай мове.

## ПУСТАЯ ПАПЕРКА!

Правадыр БНФ З. Пазьняк асьведчыў, што прыняцьце Вярхоўным Саветам БССР Дэклярацыі аб Сувэрынітэце Распублікі — гэта ў сяньняшніх абставінах у Распубліцы — звычайная паперка! ... «парадокс нашай сытуацыі ў тым, што Дэклярацыю аб Сувэрынітэце вымушаны былі прыняць тыя, каму ён не патрэбны, хто пра гэты Сувэрынітэт дагэтуль ніколі ня думаў... Дэклярацыя ў цэлым мае шмат станоўчага. І калі-б у нас была Народная ўлада і адпаведны палітычны ўзровень насельніцтва, прыняцьце такога дакументу азначала-б надзвычай важную і станоўчую для народу падзею — Джяржаўную Самастойнасьць і Незалежнасьць ад СССР. У нашых жа варунках Акт Незалежнасьці Беларусі ў асноўным ніхто не заўважыў і не зразумеў, у тым ліку і самі Вярхоўныя заканадаўцы. Сытуацыя трагікамічная, якая сьведчыць, што на сяньняшні дзень Дэклярацыя — пустая паперка — ня больш...

## «РАЗЬБЕСЬЦІЎСЯ» ЗНАЧЫЦЬ НАРОД!

У сваім экспазе Прам'ер Міністраў БССР Вячыслаў Кебіч лічыць, што эканамічнае становішча БССР трэ'паправіць, узмацняючы дысцыпліну на прадпрыемствах... гаварыў ён і аб дэцэнтралізацыі ўласнасьці, разьдзяржаўленьня эканомікі, але ані пікнуў аб разьдзяржаўленьні, аб вызваленьні сялян ад Камуністычнай — калгасна-саўгаснай паншчыны і надзяленьню іх зямлёй на ўласнасьць. Кебіч паскаржыўся даўно вядомым фактам, што: таварны голад з кожным днём усё больш адчуваюць жыхары Распублікі. З прылаўкаў магазынаў зьніклі нават простыя вырабы штодзеннага ўжытку, людзі купляюць усё без разбору... Калі становішча не палепшае, Кебіч паабяцаў увесьці собскую валюту Распублікі, як бы ахрысьціўшы паперку замест рублём — «дукатам», «капой», ці «шэлегам» магло зьліквідаваць гаспадарчы крызыс!



Ганаровым гасьцем Павільёну Прэс Клюбу падчас Інтэрнацыянальнага Фэсту «Караван», быў рад. Хмара

## БЕЛАРУСКІ ПІСЬМЕНЬНІК З-ПАД ПОЛЬШЧЫ Ў МЕНСКУ

/«Ніва»/ ... Апошні раз быў у Менску я дзесяць гадоў назад... За такі адрэзак часу можна адчуць зьмены і яны відавочныя... перш наперш я не баяўся ўжо загаварыць па-беларуску ў Беларускім стольным горадзе! І хоць надалей вулічнае жыцьцё тут па-правінцыяльнаму — рускае, аднак-жа прапаў кудысьці той імпэрскі хам, які раньней так замілавана пляваўся ў тралейбусе, ці ў трамваі на Беларускую гутарку. Пабольшала і роднамоўных надпісаў, рэклямаў...

Іду па праспекце і час ад часу чую блізкі покліч: «Жыве Беларусь!» За каторымсьці разам бачу, што гэта датычыць мяне, бо прышпілены да майго пінжака нацыянальны бела-чырвона-белы значок. Дзякуючы яму, Беларус разпазнае Беларуса...

## АБ ГЭТАК ЗВАНЫМ БЕЛАРУСКІМ ПАРЛЯМЭНЦЕ

/ЛіМ/ ... журналісты разводзяць рукамі, пра што маўляў пісаць, ці гаварыць ў рэпартажах з Сэсыі? Пра механічнае зацьверджаньне Указаў старога Прэзыдыюму? Пра амаль фармальныя выбары той, ці іншай кандыдатуры? Ці зноў пра тое, як некаторыя Дэпутаты па раньнейшаму, нягледзячы на нядаўны скандал, націскаюць кнопкі і за сябе і за «таго хлапца»? /пры галасаваньні якое адбываецца механічна за пацісьненьнем «кнопкі», спрыцяры націскалі і за адсутных/.

## З ЗАПІСАЎ ГЭНРЫСЯ ДАЛІДОВІЧА

Пісьменьнік зьмясьціў вязанку сваіх думак ў «ЛіМе», кавалкі якіх цытуем: У Сталінска-Бражнеўскую эпоху тых, хто думаў і паводзіўся прыстойна, бязьлітасна зьнішчалі, або ганьбілі, а тых, хто прыкідваўся, маніў іншым і сабе, лашчылі і падкормвалі. Свае асаблівы катэхізыс «Історыя ВКП — Краткі Курс» умацаваў такія скрыўленыя погляды, такую скрыўленую мараль, што кожнаму з нас і цяпер нялёгка зьмяніцца: баімся іншых і сябе. Хлусьня, боязь, што літаральна ўелася ў нас, шашоляць нашу душу і арганізм ўсяго грамадзтва, не даюць узяць верх сумленнасьці, праўдзе, сьцьвярджэньню самага простага і звычайнага...

## «ПРАДУКТ НАМЭНКЛЯТУРЫ» І ЗАСТАЕЦЦА ІМ І ДАЛЕЙ!

«Голас Радзімы» агітка для нашай эміграцыі, спрамаглася нарэшце нават на гэткую ацэнку Гарбачова: Няма сумненьня, что за час, які прайшоў з 11 сакавіка 1985 году, калі М.С. Гарбачоў быў абраны Гэнэральным Сакратаром, савецкі кіраўнік зьведаў вялікую эвалюцыю. Зьмяніліся яго ідэі, прамовы, погляды мейсца ў сыстэме ўлады, прыярытэты ваштоўнасьцей... Прадукт намэнклятуры, што зрабіў сваю кар'еру ўнутры складанай сыстэмы партыйных калідораў, ён стаў першым Прэзыдэнтам краіны, якая абнаўляецца. Але, ня гледзячы на ўсю эвалюцыю поглядаў, сыстэма, з якой ён уступіў у схватку, працягвала жыць у ім. Падобна Чэхаўскаму інтэлігэнту, ён выціскаў яе з сябе па кроплях, мяняючыся на вачах і ўсё такі застаючыся чалавекам сыстэмы... Вынятак з арт. «Лідар Пасьля Зьезду» — В. Косьцікава.

## НАВАТ Ў ПАРЛЯМЭНЦЕ З МЯНАВЫАНЦАМІ НЯ ЎСЕ СКАЧУЦЬ ПАД КАМАНДНУЮ ДУДКУ!

Старшыня Савету Міністраў БССР — В. Кебіч на Сэсыі Вярхоўнага Савету БССР мусяў утаўмоўваць апазыцыю, якая супраціўлялася вызначэньні ягоных паасобных Міністраў. Прапанаваная ім кандыдатура на постань Віцэ-Прам'ера не набрала адпаведную колькасьць галасоў. Адкінутыя такжа Дэпутатамі ягоныя першыя кандыдатуры Міністраў Гандлю, Лясной Прамысловасьці, Будаўніцтва і Эксплюатацыі Аўташляхоў і Старшыні Дзяржаўнага К-ту Па Кнігадруку, што выклікала пратэсты Кебіча.

Зьменены і Міністар Замежных Справаў, якім цяпер стаў «партработнік» ён-жа гісторык — П. Краўчанка. Міністрам Фінансаў вызначаны С. Янчук. Старшынёй К-ту па Эканоміцы, які мае каардынаваць ўсю гаспадарчую работу, вызначаны былы Міністар Жыльлёва-Камунальнай Гаспадаркі — А. Мясьніковіч.

## А БУРМІСТРА МЕНСКУ ГЭТАК І НЯ ВЫБРАНА!

Хоць нававыбраны Гарадзкі Савет Менску нібы дзее каля трох месяцаў, да гэтае пары ён абезгалоўлены, бо да гэтае пары не ўдалося выбраць Старшыню Гарвыканкома. Старшынёй Горсавета выбраны — А. Герасіменка, а Намесьнікам — А. Гурыновіч. Тое што дзеіцца на паседжаньнях Горсавета, карэспандэнт «ЛіМ» абзывае ўпрост «апаратнымі гульнямі». Пачалося ад хвальшэрстваў пры выбарах мандатнае Камісыі, якая паводле ўмоваў мела складацца з 11 асоб, па падзелцы: Парт група — 4 асобы і кожная з двох ахворміўшыхся груп: «Дэмакратычная Плынь», і «Демократіческое Согласіе» па 3 асобы. Але ў ахворемленым сьпісе аказалася 15 іменаў! 4 асобы даданыя бяз згоды Дэпутатаў! Пры выбары Старшыні Мандатнае Камісыі аказалася, што галасы падзяліліся пароўну: па 7 галасоў «за» і 7 галасоў «проціў», каб Старшынёй Мандатнай Камісыі выбраць Камуністычнага апаратчыка. Чэсак далучыў свой уласны голас за сябе і быў гэткім чынам «выбраны» за Старшыню. Зразумела з гэтым пачалося сабатаваньне Камісыяй ўсіх скаргаў з нерэгулярнасьцяў на выбарах у Горсавет, шматлікія хвалшаваньні, скрэсьліваньні галасоў, скрэсьліваньні кандыдатаў і іншае.

## ВЫСТАВА «БРАТНІХ» НАРОДАЎ У МЕНСКУ

Як падана ў Менску з нагоды «Дзён Славянскай Пісьменнасьці» прысТасаванай і да 500-годзьдзя нараджэньня Беларускага Першадрукара Францішка Скарыны — адбылася Мастацкая Выстава, ў якой прынялі удзел: БССР і Расейская Распубліка. Карэспандэнт «Голасу Радзімы» В. Богуш зьвярнуў увагу на гэткі дзівос на Выставе ў Менску: «хацеўбы зьвярнуць увагу на адну акалічнасьць, што кінулася мне ў вочы на гэтай Выставе... Выставу ладзяць на парытэтных асновах дзьве Распублікі. І гэты парытэт павінен прысутнічаць ва ўсім. Таму пытаюся чаму афіша і этыкетка на творах толькі на рускай мове! Чаму на афішы Выставы толькі Маскоўскі Крэмль — сымбаль Расіі і няма ніякай выявы, якая-б сымбалізавала Беларусь!... /Дзівак чалавек! Дык гэта-ж і ёсьць «раўнапраўе» па Савецкаму! Па Камуністычнаму! Гэта-ж і ёсьць Дземеньцеўска-сакалоўскі «Сувэрынітэт» Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Распублікі!/

## ЗА БЕЛАРУСКАЕ ВОЙСКА

У «ЛіМ» вайсковец С. Гарбавец выступіў з артыкулам аб патрэбе ўжо сяньня ў БССР — Беларускага Войска. Стварэньне нацыянальнага войска можна ажыцьцявіць ў даволі кароткі тэрмін на матэрыяльнай базе тых вайсковых злучэньняў, што разьмешчаны на тэрыторыі распублік зараз. Пачаць гэты працэс можна з замены часткі ахвіцэрскіх кадраў гэтых злучэньняў на ахвіцэраў, якія служаць у іншых мейсцах і выкажуць жаданьне служыць у нацыянальным войску... Ракрутацыя жаўнераў нацыянальнага войска мае быць на аснове: ... іх жаданьня служыць у нацыянальным войску і валоданьне Дзяржаўнай мовай Распублікі... Ахвіцэры павінны рыхтавацца на Вайсковых Катэдрах ВНУ Распублікі, на Нацыянальных Факультэтах пры Вайсковых Вучылішчах, якія знаходзяцца на тарыторыі Распублікі... У мундзеры /асабліва парадным і штодзенным/ можа быць — я лічу — шырока выкарыстана нацыянальная сымболіка... Нацыянальнае войска можа стаць сымбалам нашай дзяржаўнасьці, сродкам аднаўленьня нацыянальнай годнасьці, школай запраўды патрыятычнага выхаваньня...

## САВЕЦКАЕ БЫДЛА!

**У «Звяздзе» прамігнула вестка аб страйку ў студэнтаў у Менскім Інстытуце Культуры. Палавіна групы дырыжораў Акадэміцкіх Хораў атрымала на Выпускным экзамене па Беларускай літаратуры незадаваляючыя ацэнкі, а група хорэографаў наагул адмовілася гэтыя экзамены здаваць. Студэнты абвесьцілі папераджаючы страйк, і калі іхныя патрабаваньні ня будуць задаволеныя пагражаюць галадоўкай. Страйкуючыя вымагаюць выдаленьня з работы са студэнтамі — дацэнта Анатоля Майсяенку, бо' маўляў ён «зьдзекуецца» са студэнтаў за праяўленьні іншадумства» і іх «абражае», бо размаўляючым па расейску раіць ехаць у РСФСР /у Расею/, туды дзе гавораць на «вялікім і магутным»,.. прыніжае іхную людзкую годнасьць... Ўзгадаваныя вырадкі свае бацькаўшчыны і свайго народу ў гэтак званым «Беларускім» Інстытуце Культуры, якія маюць несьці людзям Беларускую культуру, адмаўляюцца здаваць экзаміны з Беларускай Літэратуры! І Вучоны Савет Інстытуту, замест разагнаць гэтую бражку вырадкаў свайго народу, «аднагалосна» падтрымаў патрабаваньні студэнтаў /групкі рэнэгатаў!/ Ідзе акцыя асымілятараў аб выдаленьні А. Майсяенкі наагул з працы ў Інстытуце. А як ацаніць тое, што Акадэмія Навук БССР выступіла супроць улеталізаваньня Уладамі БКТ? Хто там сядзіць?**

## АБСАДЖВАНЬНЕ БЕЛАРУСІ ВОЙСКАМ

«Навіны» — ворган БНФ падае: ... Паведамляюць, што неўзабаве насельніцтва Беларусі можа павялічыцца на адзін мільён чалавек за кошт вайскоўцаў, якія выводзяцца з Эўрапейскіх краінаў. Для іх ужо будуюць жыльлё, у тым ліку ў закрытым для Чарнабыльцаў Менску.

## ДЗЯЦЕЙ НЯ ПУСЬЦІЛІ

Вярхоўны Савет і Урад Літоўскай Распублікі, запрасілі дзецяў з забруджаных радыяцыяй раёнаў БССР на летні адпачынак ў санаторыі і курорты Літвы. Урад БССР не палічыў патрэбным нават адказаць на гэтыя запросіны братняе краіны.

## ЯШЧЭ АБ ЧАРНАБЫЛЮ

Зону забруджаньня радыяцыяй па Чарнабыльскай катастрофе наведаў Б. Сачанка і іншыя пісьменьнікі... Падаём кароткія зацемкі з ягонага рэпартажу...

... Звычайна пры любой аварыі, калі ёсьць пагроза чалавечаму жыцьцю, першае што робіцца — адсяляюць людзей з мейсцаў, дзе ёсьць такая небясьпека. У нас-жа адсяліўшы людзей з трыццацікілямэтравай зоны і то з недаравальным спазьненьнем, пачалі высоўваць розныя канцэпцыі, паводля якіх чалавеку на забруджаных тэрыторыях ня толькі можна жыць і займацца сельскагаспадарчай дзейнасьцю, а нават неабходна, карысна. Больш таго, тым хто з гэтым ня быў згодны, затыкалі рот, не давалі гаварыць. Амаль тры гады тое, што здарылася ў Ветцы на Магілёўшчыне, наагул усюды за межамі трох самых блізкіх да Чарнабыля раёнаў — Брагінскага, Хойніцкага, Нараўлянскага... а каб людзі нічога ня ведалі, нават не здагадваліся пра бяду: — не інфармавалі, не выпускалі дазімэтраў...

Цяпер адгаворка ў начальства адна: мы маўляў ні ў чым не вінаватыя, мы выконвалі тое, што нам казалі. Так, можа быць усё так, але-ж і сумленьне павінна быць у кожнага... Мучацца-ж тысячы людзей, хварэюць, паміраюць. А што яшчэ будзе? Праз год, два, тры, чатыры, пяць гадоў... З усіх жа радыёнуклідаў, што выпалі ў Беларусі, больш паловы асталося на вечна, ляжаць на палях Хойнічччыны, Брагіншчыны, Нараўляншчыны. І раней ці пазьней раёны гэтыя давядзецца ліквідоўваць... Становішча ў раёне /Хойніцкім/... ня проста напружанае, а крытычнае. Людзі зьняверыліся, яны ня могуць больш чакаць невядома чаго. У раёне ўжо зараз не хапае больш паловы гандлёвых работнікаў, прыкладна столькі — медыкаў, настаўнікаў, іншых спэцыялістаў. Грашовыя надбаўкі перасталі задавальняць. Сваё здароўе і здароўе дзяцей даражэй. Ды і што за тыя грошы купіш, асабліва ў нас, у Хоўніках? Ня дзейнічаюць ніякія ўгаворы. Людзі патрабуюць адсяленьня... /Галоўны доктар Раённага шпіталя — А. Тарасэвіч ня бачыць рожніцы між зонамі «жорсткае кантролі і ня жорсткае, бо як з адной зоны, так і з другой прыбываюць хворыя з тымі самымі хваробамі — гэта перш за усё гіпэртонікі, з захворваньнямі сардэчна-сасудзістай і эндакрыннай сыстэм, дыябэтам, бранхітам і інш. Павялічыліся ў параўнаньні з даваарыйным пэрыядам выпадкі лейкозу, захворваньняў печані і лёгкіх і асабліва шчытавой жалозы і зроку. Шкада дзяцей — яны пацярпелі ды і церпяць найбольш. Сёньня іх на сталым дыспансэрным уліку каля дзьвух тысяч... У шпіталі не хапае лекароў, мэдсёстраў. Няма неабходных лекаў, патрэбнай дыягнастычнай апаратуры. Абурэньне, скаргі людзей на тое, як іх лякуюць справядлівыя.../

Пад Бабчынам — вялікі сьвінягадоўчы камплекс. На 25 тысяч галоў. І Бабчын ратавалі, каб не закрыць гэты сьвінягадоўчы камплекс. Зноў — не людзі на першым пляне былі, а сьвіньні.

Выселеныя вёскі-хаты ўсе парабаваныя, знайшліся злодзеі, якія павыносілі усё, і гэтае недзе-ж прадавалася ня гледзячы на радыёактыўнасьць, заканчаючы радыяцыяй пакупцоў.

Заўвага: паводле дайшоўшых вестак ходзячых па Беларусі, да гэтага жахлівага становішча затрымкі перасяленьня насельніцтва з загрожаных ваколіцаў паза ахвіцыяльнай 30-ці кілямэтравай зонай адсяленьня, прыклалі руку галавары Савецкай Арміі, перадусім Камандзер Беларускай Ваеннай Акругі і Стратэгічны Адздзел Сав. Арміі, якія захацелі выкарыстаць Чарнабыльскую катастрофу дзеля навуковых досьледаў над людзьмі, вытрымаласьці людзкага арганізму пры сталым доўгагадовым прабываньні ў заражаных радыяцыяй зонах. Дзеля посьпеху гэтых досьледаў патрэбнае было вялікае насельніцтва і абшары з рознай моцай радыяцыі, розных радыяактыўных элемэнтаў. БССР аказалася ідэальным досьледным полем, а Беларусы досьледнымі кролямі!

## ПАД ЗНАКАМ «РУСКАЕ» І «ПОЛЬСКАЕ» ВЕРЫ

У Беластоку выйшла кніжыца памерлага а. Ільва Гарошкі, аднаго з кіраўнікоў Вуніяцкае Беларускае акцыі на Захадзе і рэдактара тады выходзячага ў Эўропе Вуніяцкага часопісу «Божым Шляхам».

## «САВЕЦКІЯ ЛЮДЗІ» І НАДАЛЕЙ!

Аргентыну ў мінулым годзе быў наведаў яшчэ нядаўні Старшыня Прэзыдыюму Вярсавету БССР — Таразэвіч, адзін з магільшчыкаў Беларускае Нацыі. Наведаў Аргентыну, каб падтрымаць валячаяся ўжо і там, створанае ў сваім часе савецкімі спэцамі па русыфікацыі Беларусаў — месіва: «Савецкі Народ». Гэта дасло́ўна! Гэтыя Савецкія злачынцы патрапілі ў цягу якіх 10 гадоў, абярнуць тысячныя арганізацыі Беларускія сялян ў Расейскія, пад вывешкай «Савецкіх», ды ня толькі арганізацыі, але і людзёў патрапілі змусіць выірачыся свайго імя, ды запісацца як «Савецкія» людзі, ды прыняць ня толькі назоў «Савецкі», але і запісацца ў пашпартах, як безнацыянальныя «Савецкія Грамадзяне». Каля 30 тысяч Беларусаў абярнулі ў некую безнацыянальную скаціну, пазбавілі іх свайго нацыянальнага імя ды ходаліся, каб яны забылі сваіх бацькоў і дзядоў. Гэта была найвялікшае праступства лінгвіцыду, дакананае над Беларускім народам паза межамі ягонай зямлі. Актыўны удзел у гэтым брала і гэтак званае Савецкае Таварыства «Радзіма» — Аддзел у Менску. Брала і бярэ! Ня гледзячы на гэтыя 5 гадоў перастройкі, калі нібы справядлівасьць павінна-бы павярнуцца ў дзеяньнях Савецкіх прадстаўнікоў за мяжой, — у тым выпадку самога «Прэзыдэнта» БССР! Ці думаеце, што ён паехаў у Аргентыну, каб сказаць нарэшце ачмураным імі калісьці Беларусам і іхным дзецям, што іхняя ператварэньне ў некіх безнацыянальных «робатаў» — скаціну, было праступствам-злачынам над Беларускім народам? А якжа! Наадварот, ён там аб гэтым Савецкім злачынстве і не ўспамянуў! А і далей ўсхваляў гэтае праступства і сваіх агэнтаў, дапамагаючых гэтаму лінгвіцыду над Беларускім народам у Аргэнтыне, як напрыклад сяньняшні «Прэдсядатель «Фэдэрацыі Клюбаў Савецкіх Грамадзян» — У. Бальшак.

/Карэспандэнцыя падае справы падзеі ў Аргентыне з мінулага году, а аднак надыйшла яна да нас толькі пару м-цаў таму і мы пастанавілі такі яе надрукаваць, таму што яна актуальная і ў сучасны час. **Радакцыя.**

## ВІЛЕНШЧЫНА

/«Свабода»/ ... «Не разгневаць Маскву, дагадзіць ёй — вось прынцып Менскага кіраўніцтва. 50 гадоў ня думалі пра Беларусаў ў Віленскім Краі аддалі Літоўцам Беларускі Музэй са Слуцкімі паясамі, архэалягічнымі знаходкамі, старажытнымі кнігамі, зборамі газэт і часопісаў, дазволілі Польскім ксяндзам апалячыць значную частку Беларусаў у Літве, а цяпер схамянуліся. Бо гэта трэба Маскве»...

## ПОЛЬСКІ УЛЬТРА НАЦЫЯНАЛІЗМ ПАКАЗВАЕ РОГІ

Зьезд Польскай Сялянскай Партыі «Строніцтва Людовэго», якое ішло даўней на паску Камуністаў, перахрысьціўшы сябе, ці хутчэй перамаляваўшы ў «Польскае Строніцтва «Адраджэньне», адкінула бальшыней галасоў Кангрэсу рэзалюцыю, падтрымоўваючую абвешчаную незалежнасьць Літвы! Дзіўна ня тое, што Польскім ультранацыяналістаым мроіцца яшчэ Польшча з цэлай Зах. Беларусяй і з Вільняй, а тое, што гэта сталася на Кангрэсе Польскай **Сялянскай** Партыі, а не нацыяналістычнай правіцы.

## ДЗІЎНАЯ ПАКРАЖА — ЦІ НЕ ЎЗБРАЯНЬНЕ ТЭРАРЫСТАЎ?

У Нурцу на Беласточчыне са складаў Польскае Вайсковае адзінкі скрадзеныя невядомымі: 3 скрыні гранат і проціпанцырныя кулі. Ці гэта не ўзбройваньне мяйсцовых Польскіх антыбеларускіх тэрарыстаў для разправы з мяйсцовым Беларускім насельніцтвам?

## НОВЫЯ АСАДНІКІ НА БЕЛАРУСІ

«Навіны» — ворган БНФ піша: ... мы можам апынуцца ў становішчы Латышоў у Латвіі, Эстонцаў у Эстоніі, г. зн. стаць адноснай бальшынёй ў сваёй краіне. Паколькі вайскоўцы-адстаўнікі і рэзэрвісты — няўтулька пачуваюцца ў Балтыі, яны пачынаюць паціху перабірацца на Беларусь. Далей, ідзе вывад Сав. войскаў з Чэхаславаччыны, Вугрыі, Нямеччыны. Частка іх асядае ў нас. Ідзе скарачэньне Арміі. Рэзэрвісты й адстаўнікі перабіраюцца на Беларусь. Яны маюць права на першачарговае атрыманьне жыльля. Мала таго «шаснаццатая распубліка» абавязала мясцовыя органы ўлады стварыць ім ражым найбольшага спрыяньня. Такім чынам на Беларусі павялічваецца працэнт «рускаязычнага насяленьня»...

... Ёсьць яшчэ адно далікатнае пытаньне. Трэба зьвярнуць увагу й на тое, што да нас пераяжджаюць Армяны, Азэрбейджанцы. Уцякаюць са створанага імі пекла. Пад Ратамкай пабудаваны цэлы Армянскі пасёлак... Яны за вялікія грошы прапісваюцца ў Менску й прыгарадах, чым таксама абвастраюцца нашы праблемы — нацыянальныя й сацыяльныя...

**Заўвага Радакцыі:** нам здаецца, што аўтар зацемкі крыху памыляецца. З Арменіі і Азэрбейджану ўцякаюць не мяйсцовыя патрыёты, але Расейская наменклятура і мяшанцы, быўшыя на паслугах Расейскакамуністычнага акупанта, баючыся помсты ад паўстаючых народаў. У дадатак да ўспомненых аўтарам зацемкі памоцніках акупанта з Арменіі і Азэрбейджану, трэ' далучыць Кітайцаў, аселеных ў саўгасах Кобрыншчыны, Ветнамцаў у Магілёве, Месхаў на Смаленшчыне і іншых.

## ЖЫРОВІЦКІ ФЭСТ

У гэтым годзе Жыровіцкі Фэст на Дзень Маці Божае Жыровіцкае, сабраў нязьлічоныя гушчы прашчанаў з усяго Заходнага кутка Беларускай зямлі, нават зпаза Савецкай граніцы з падпольскай Беласточчыны і Падляшчыны. Характэрна, што з нагоды Фэсту нават Савецкія гандлёвыя установы выкінулі на вуліцы свае прадукты. Вуліцы і Цэрквы былі запружаныя народам. Ля' Сьвятой крыніцы, дзе прашчаны бяруць Сьвятую ваду няспынная, доўгая калейка.

## КАМУНІСТЫЧНЫЯ ХАПАЛКІ

Ворган БНФ — «Навіны» аб падстаўных камуністычных хапалках ахвяраў, прызначаных для дзецяў Чарнабылю піша:

... Каб канчаткова заплытаць людзей, ўлады прыдумалі новы ход: яны пачалі ствараць Камітэты... «Дзеці Чарнабыля». Зараз у Распубліцы іх ужо тры... асабліва трэба адзначыць апошняе новаўтварэньне «Дзеці Чарнабылю» — З., створанае з ініцыятывы партыйна-дзяржаўнага апарату... Узначальвае гэтую новую арганізацыю Натальля Машэрава, дачка былога Першага Сакратара ЦК КПБ... Кантактавацца з Камітэтам БНФ яна адмовілася...

## ЯШЧЭ АБ ВЫБАРАХ У САМАЎРАДЫ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

Ня гледзячы на Польскі, нацыяналістычны тэрар, ўсюды дзе Беларусы патрапілі выставіць свае выборчыя лісты, яны асяглі перамогу. Беластоцкая «Ніва» падае: У Гарадоцкай гміне на 20 асабовую Гмінную Раду — 17 Радных ад Беларускага Дэмакратычнага Аб'еднаньня, ў Нараўчанскай на 18 Радных — 13 ад БДА, у Белавежы на 15 — 14 ад БДА, у Гайнаўскай на 18 Радных — 9 ад БДА, у Арлянскай на 18 — 9 ад БДА, у горадзе Гайнаўка прайшло 7 Радных ад БДА, у г. Бельску 8, у гміне Мілейчыцы на 15 Радных 9 ад Кааліцыйнага Выбарчага К-ту /Беларускі/. У гміне Чаромха ад Камітэту Нац. Мяньшынь /Беларусы і іншыя/ прайшло 14 на ўсіх 18. У Дубічах Царкоўных: 13 на 15 Радных, у Кляшчэлях, Боцьках, Нараве, Нурцу, Беларускія Выбарчыя К-ты ішлі без назову: «Беларускі», аднак такжа мелі посьпех. Паасобныя кандыдаты БДА прайшлі ў гмінах: Супрасьль, Бельск, Шудзялова і іншых. У Беластоку прайшоў толькі адзін кандыдат БДА.

## ДЗІЦЯЧЫЯ САДКІ І ЯСЬЛІ

Не сакрэт, што і ў горадзе і ў вёсцы людзі гадамі стаяць у чарзе, каб атрымаць мейсца ў дашкольнай установе. І нярэдка — безвынікова... /«Голас Радзімы»/

Гутарка з Начальнікам Пажарнай Аховы БССР В. Астапавым

## АГЛЯД

## ДЗЯРЖАЎНАЯ РАДА «ВЕЧА»

**Нр. 71 і 72. «Летапіс Беларускай Эміграцыі», 1990, Бруклін, ЗША.** Хоць і з доўгімі перапынкамі часапіс як бачым такі выходзіць, ня гледзячы на незадаваленьне ведамых колаў Эміграцыі, якія хацелі-б як глыбей захаваць ад вочаў дасьледчыкаў некаторыя ня зусім слаўныя старонкі яе дзеяньня, ці зьнішчыць з гісторыі ведамкі аб тых, чые дзеі не ўкладаліся ў «галоўную плынь».

Ці шматлікім нават дасьледнікам ведама напрыклад аб стварэньні аднаго часу на Эміграцыі «трэцяга» Экзыльнага Ураду БНР? /Веча — Дзяржаўная Рада Беларускай Дэмакратычнай Распублікі/, ці аб «Старакаталіцкім Беларускім Патрыярхаце» з Патрыярхам Уладыславам? Прадстаўнікі якога дзеялі і ў ЗША і ў Канадзе і Нямеччыне? Ці аб тым, што сяньняшні «Першагерарх БАПЦ — Архіяпіскап Мікалай /Мацукевіч/ з Канады, які сяньня прабуе дубляваць Ерархію БАПЦ азагалоўленую Мітрапалітам Ізяславам, яшчэ у 1982 годзе выракся /адходжу на пакой/ Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы? Або спроба стварэньня Белар. Аўтакефальнай Кананічнай Царквы з Яп. Апанасам /Руская-Зарубежная/, яп. Васілем /БАПЦ/ і Арх. Уладзімерам? Ахв. лісты — дакуманты знойдзеце ў «Летапісе». Паза тым цікавыя дакуманты, як Адозва К-ту Ратаваньня БАПЦ ў Канадзе, Аб утварэньні Каардынацыйнага К-ту ў Канадзе і Бел. Нац. Рады /1952/.

У нумарах: ліставаньне Л. Галяка, Ліманоўскага /справа «папраўленага выданьня С. Станкевічам і супалкай Купалы/. Ліст Весялкоўскага — гісторыя ХАБР, Аб «новаўласаўшчыне», «Візбадэне» — МАКЦ, — этапах здабываньня фондаў коштам выračэньня ад Дэклярацыі з 25-га Сакавіка аб незалежнасьці БНР. Перапіска Кат. дзеячоў: а. Леў /Гарошка/ — Грынкевіч. Гісторыя Царквы ў Аўстраліі /аб М.Н. — Нікане/ і шмат, шмат іншых цікавых дакумантаў!

**Аглядчык**

## У 11 ШКОЛАЎ ЛІДЫ — ПОЛЬСКАЯ МОВА!

Як падае Польская прэса ў 11-ці школах г. Ліды пачалі выкладаць Польскую мову. Затое ў Лідзе і да сяньня няма беларускай школы. Усе яны Расейскія!

## СПРОБА ЗАБОЙСТВА БЕЛАРУСКАГА КАНДЫДАТА Ў МЕЛЬНІКУ

Надышла вестка з Беласточчыны пад Польшчай, аб тым тэроры, які стасавалі Палякі да Беларусаў падчас апошніх самаўрадавых выбараў на Беласточчыне.

Кандыдат на Войта Гміны ў Мельніку — Ян Здуневіч быў падстрэлены невядомымі на падворку сваe хаты, калі ён вярнуўся з сустрэчы з жыхарамі вёскі Токары. Перад тым ён атрымаў ананімнае пісьмо з пагрозамі і дамаганьнем каб адмовіўся кандыдаваць на Войта.

## НОВААСЬВЕЧАНАЯ ІКОНА БОЖАЕ МАЦІ АХВЯР ЧАРНАБЫЛЮ

Беларускі мастак Аляксей Марачкін стварыў вобраз «Богамаці Ахвяраў Чарнабылю», якая ўжо высьвячаная і будзе урачыста ў Царкоўнай працэсьіі перанесеная на пацярпеўшае Палесьсе.

## БЕЛАРУСКІЯ ПЯЦІДЗЕСЯТНІКІ — АХВЯРАМ ЧАРНАБЫЛЮ

У чэрвені трэці ўжо раз наведаў Беларусь з сабранай у Нямеччыне дапамогай для ахвяр Чарнабылю — Міхал Мельнік. Лекі, вітаміны і іншае прывезена безпасярэдна з Нямеччыны ладунковым аўтам. Ахвяры сабраныя пры дапамозе Нямецкай арганізацыі Эвангельскіх Хрысьціян-Пяцідзесятнікаў. На чале Дабрадзейнай Пяцідзесятніцкай Місыі, якая ўзгалаўляе акцыю дапамогі, стаіць яе кіраўнік Ганс Олеш.

### СУД НАД ПАЎЛОЎСКІМ АДЛОЖАНЫ

На дамаганьне адвакатаў Міхала Паўлоўскага, абвінавачанага ў злачынствах падчас апошняй вайны, калі ён быў паліцыянтам на Беларусі пад Нямецкай акупацыяй /удзел у забойствах Жыдоў і Палякоў/. Суд нам ім адложаны да часу пакуль адвакаты не правядуць новыя допыты сьведкаў на мейсцы на Беларусі, ды засьняўшы допыты прывязуць да Канады, каб высьвятліць зфільмаваныя сьведчаньні сьведкаў перад Лавай Прысяглых на Судзе у Атаве. Паўлоўскі пражываў ад 1951 году па прыезьдзе ў Канаду ў г. Рэнфрю на Захад ад Атавы, і займаўся сталяркай.

### ДЗЕЦІ-АХВЯРЫ ЧАРНАБЫЛЮ ЗАПРОШАНЫЯ НА АДПАЧЫНАК

Нямецкія арганізацыі заправілі на 4 тыдні адпачынку да сябе дзяцей /200/ з Гомельскай, Магілёўскай і Берасьцейскай вобласьцяў. Гэтая міжнародная дапамога з боку розных краёў Эўропы і Амэрыкі дзецям Чарнабылу адбілася аж на Кубе, дзе мяйсцовы камуністычны кацык — Кастро таксама запрасіў пару сотак дзецяў на дапачынак, каб магчы прадэманстраваць перад тэлевізыйнымі апаратамі свой барадаты твар і «міласэрдзьдзе».

### 3 ТЫСЯЧЫ ДЗЕЦЯЎ — АХВЯРАЎ ЧАРНАБЫЛЯ НА ЛЯКАВАНЬНЕ Ў ІЗРАЭЛЬ

Да Ізраэля прыбыла першая група дзецяў на лекаваньне, запрошаныя Хасыдскай арганізацыяй Артадаксальных Жыдоў-Хасыдаў Любавіцкага напрамку. Яны называюцца «любавіцкімі» ад мястечка Любавічы, дзе нарадзіўся іхны рух і як называецца і дасюль іхны Галоўны Рабін /Любавіцкі Рабін — Цадык/, які пражывае ў ЗША. Хасыдская арганізацыя запрасіла дзецяў перадусім з Гомельшчыны і Мазыршчыны. Як звыкла адзначыліся мясцовыя Камуністычныя кацыкі. Запрошаныя дзеці мусялі сядзець аж тры дні ў аэрапарту, бо Камуністычны бюракраты нешта не ўдакладнілі. Толькі калі Жыдоўскія ініцыятары Хасыды зьвярнуліся аб дапамогу да Мільлянэра Робэрта Максуэла, які дапамагаў гэтай акцыі, Савецкі ўлады дзецяў выпусьцілі. Дзеці гэтыя Жыдоўскага паходжаньня.

### І КІПАР ДАПАМАГАЕ!

Кіпраўская арганізацыя Грэцкіх Бойскаўтак запрасіла да сябе на абток Кіпар групу Беларускіх дзяўчынак з-пад Мазыру, якія жывуць ў закажанай радыяцыяй зоне ад Чарнабыльскай катастрофы.

### МІЖНАЦЫЯНАЛЬНЫ ФЭСТ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ» — 90 Ў АТАВЕ

Трохдзённы Фэст Этнічных груп «Бацькаўшчыны» адбыўся з 15 па 17 чэрвеня ў Атаве. Сярод іншых быў такжа Беларускі Стэнд, ўладжаны Івонкай Сурвілай. Беларускі аддзел Выстаўкі Фэсту меў дзьве тэмы: «Чарнабыль і 500-я ўгодкі Ф. Скарыны». Шмат экспанатаў было з галіны народнага мастацтва. Фэст ладжаны Радай Народнага Мастацтва ў Атаве.

## З ПРЭЗЫДЭНТАМ ФЭДЭРАЛЬНАЙ РАСПУБЛІКІ НЯМЕЧЧЫНЫ

З нагоды адведзін Прэзыдэнтам Нямецкай Фэдэральнай Распублікі Фон Вэйцыкерам с сужонкою Канады ў Таронце у верасьні адбыўся Галёвы Балетны Вечар на запросіны Гэнэральнага Консуля Нямеччыны. Гасьцём Галёвага Балетнага Вечару з Прэзыдэнтам была М. Хмаранка. Перад запрошанымі гасьцьмі выступіў Гамбургскі Балет.

## АЛІМПІЙСКАЯ ГАЛЯ У «РОЯЛЬ ЙОРК»

26-га жніевеня адбылося ў Рояль Йорк Гатэлі ў Таронце Галёвае прыняцьце Алімпійскага Камітэту. Сярод гасьцёў прысутнічала Беларуская прадстаўніца ў Камітэце — Магдалена Хмаранка.

## ЗЬЕЗД ВОЛЬНЫХ ПРАФСАЮЗАЎ ТРОХ РАСПУБЛІК

У Менску адбыўся Зьезд вольных Прафсаюзаў Беларусі, Літвы і Украіны.

## АДКАЗЫ РАДАКЦЫІ

**Клімаш.— Францыя.** Дзякуем за пісьмо, з якога даведваемся, як вандруе наш «Беларускі Голас» з рук да рук сярод нашых суродзічаў. Гэта вось і нашае няшчасьце, што дзякуючы безадказным нашым былым «правадырам» эміграцыі ўва Францыі, дапусьцілі да таго, што эміграцыя там амаль поўнасьцю або зпольшчылася, або зрасейшчылася ў Царквох, ці Касьцёлах. Вы пішаце, што для Вас кожная мова добрая, але бачыце, ёсьць яшчэ і свая — матчына, ці як Вы пішаце: «дзядоўская» /мой дзед гутарыў/ і мы яе ходаем тут на чужыне сярод нас захаваць і дзецям сваім перадаць. І Вашае цьверджаньне няслушнае, што ўва Францыі ўсе яе нацыянальнасьці называюць сябе Французамі, не адказвае фактам, бо мы тут ня толькі ведаем, але і сустракаемся з патрыётамі сваіх народаў, якія змагаюцца за сваю родную мову і самастойнасьць і ва Францыі і Баскаў і Брэтонаў і нават Правансальцаў!

Дзякуем за верш, з чаго бачым, што Вы аднак свайго не забылі!

Выйшла Хмара, бе маланка
Гледзяць людзі ў гору.
Грыміць Хмара і Хмаранка
Ці памогуць гору?
І пайшла сама па сьвеце
Воблакі сухія.
Гледзяць людзі, гледзяць дзеці...
А, людзі глухія!....

Вашая праўда! Шмат глухіх! Але ня ўсе! Ёсьць яшчэ і ня глухія! Прыклад гэтаму: існаваньне вось ужо 41-шы год нашае газэты на чужыне. Жыве Беларусь!

## БЕЛАРУСКІЯ МЭЛЕДЫІ ЗА МЯЖОЙ ФЭСТ ПЕСЬНІ МАЛАДОЙ БЕЛАРУСІ

На Беласточчыне ў Гарадку адбыўся Маладзежны Сьпявацкі Фэст, на які прыбылі таксама групы рокмузыкі і з БССР — група «Уліс» і «Мроі», бард Сокалаў-Воюш і іншыя «БАСОВІШЧА». Так ахвіцыяльна назваўся Фэст ад імя ладзіўшага яго Беларускага Аб'еднаньня Студэнтаў, у скароце БАС.

### ФЭСТ ІКОНЫ БОЖАЕ МАЦІ СМАЛЕНСКАЕ

У летняй Беларускай Адпачынковай аселі «Менск» ў Штаце Нью Джэрсы адбыўся штогодні Фэст. Пасьля Багаслужбы адбыўся міжпарафіяльны пікнік Беларускіх Праваслаўных Прыходаў Амэрыкі.

### КАТАЛІЦКІ СЬВЯТАЯНСКІ ФЭСТ 'ЛЯ ГЛЫБОКАГА

На Купальле каля Глыбокага адбыўся Каталіцкі Фэст, на які зьехалася каля 10 тысяч Каталікаў на чале з Тадавушам Кандрусэвічам Біскупам Менскім і Беларускім.

### ПАДПАЛ БЕЛАРУСКАЕ СЬВЯТЫНІ — ВОДКЛІК У СОЙМЕ

У сувязі з апошнім падпалам на сьвятой Гары Грабарцы існуючай там Праваслаўнай Царквы, якраз перад штогодняю Прошчаю Беларускага Праваслаўнага насельніцтва Беластоцкага, Падляскага і Аўгустоўскага ваяводзтваў пад Польшчай да Польскага Сойму з Беласточчыны — А. Чыквін выступіў з адумыснай заявай, у якой асьведчыў, што няспынныя падпалы Праваслаўных Цэркваў /ўжо 6!/ напамінаюць умыснае нішчэньне Цэркваў у 1938 годзе. Чыквін дамагаўся, каб Польскі Урад выдаў адумысную заяву, аб ягоных адносінах да Праваслаўнай Царквы, ды законы забясьпечваючыя Праваслаўнае насельніцтва ад перасьледваньня Польскім нацыяналізмам.

## РАЗЬВІТАЛЬНЫ БАНКЕТ

24-га жніўня адбыўся Банкет з нагоды адыходу са Старшыняваньня Дарадчай Рады Шматкультурнасьці і Грамадзянства — д-ра Ша Конга.

На Банкеце былі прысутны Міністар Шматкультурнасьці Грамадзянства — Боб Йонг, Санатар Ст. Гайдаш і Экзэкутыўны Дырэктар Этнічнага Клюбу Журналістых і Пісьменьнікаў — С. Хмара з сужонкаю.

## ШЭСЬЦЬ ТЫСЯЧ ПАРАЗЫТАЎ НА ШЫІ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ!

Як падана ў Вышэйшых Навучальных Установах БССР навучалася больш 6-ці тысячаў Замежных студэнтаў, з якіх амаль ня ўсе з гэтак званага «Трэцяга Сьвету», а інакай кажучы: бальшыня з краін апанаваных Камуністычнымі агэнтамі Масквы, як Ангола, Мазамбік, Абісынія і падобныя. Гэтыя «студэнты» — гэта гатаваныя Камуністычныя агэнты на прыпанасьць, пасыланыя ў свае краіны для дывэрсыйнай працы, якія жывуць на ўсім гатовым за кошт Беларускага народу.

## ПАМЁР ПІСЬМЕНЬНІК МІХАСЬ КАЛАЧЫНСКІ

У Менску памёр радактар ілюстраванага часапісу «Беларусь» Беларускі паэт — Міхась Калачынскі, аўтар шматлікіх зборнікаў паэзыі. Быў Намесьнікам Старшыні Саюзу Пісьменьнікаў БССР. Паходзіў з Меншчыны. Меў 74 гады.

## ПАМЯЦІ МАРЫЙКІ БІЛАШ

У Вініпэгу ў Канадзе памёрла старая Украінская пэдагагічная дзеячка — Марыя /Марыйка/ Варава па мужыку: Білаш. Яна была настаўніцай Украінскіх школак ў Манітобе ад 1926 году, працуючы ў іх аж да адходу на пэнсыйны адпачынак. Яна была адна із тых прыяцеляў нашага вызвольнага руху Грамады, якія дзейна дапамагалі увязьненым Грамадаўцам па Польскіх турмах. Марыйка прыняла апеку безпасрэдна нада мною, пішучы да мяне з Канады лісты, ды дакладаючы да іх заўсягды пару даляраў, што для вязьня было дапамогай да вастрожных харчоў. У далейшых маіх жыцьцёвых пераплётах мы страцілі свае пісьмовыя кантакты. І вось цяпер цераз больш чым 60 гадоў неспадзявана дайшла да мяне вестка аб яе сьмерці ў Вініпэзе.

Дык хай жа Ёй будзе пухам Канадыйская вольная зямля!

**Сяргей Хмара**

З працэсу БСР Грамады «56» ў Вільні на чале з праф. Б. Тарашкевічам. б. вязень Лукішак, Быдгошчы Каранова, Грудзёндзу, Гародні, Слоніма, Пінску, Берасьця /вайсковая турма/, Седльцаў, Картуз-Бярозы і Менску.

## ПРАТЭСТ БЕЛАРУСКАГА ДЭМАКРАТЫЧНАГА АБ'ЕДНАНЬНЯ

БДА ў Беластоку зложыла Пратэст Прам'еру Польшчы Мазавецкаму і Нацыянальнай Камісыі Польскага Сойму ды Старшыні Ваявоцкага Сойміку ў справе абсаджваньня Адміністрацыыі Беларускіх раёнаў Беласточчыны Палякамі. Гэта выразнае ігнараваньне Беларускага насельніцтва, якое ў Гайнаўскім і Бельскім раёнах складае пераважную, ці нават абсалютную бальшыню, што паказалі нядаўныя Самаўрадовыя выбары.

## ПАМЁР АЛЯКСАНДАР СМАЛЬ

Ў Сыднэі ў Аўстраліі памёр Аляксандар Смаль — Беларускі дзеяч, удзельнік стварэньня першай Беларускай арганізацыі ў Аўстраліі на чале з У. Клуніцкім — «Беларускага Аб'еднаньня Новай Валіі» і закладзін ягонага друкаванага воргану «Новае Жыцьцё» з Двупагоняй». А Смаль паходзіў з Наваградчыны. Меў 77 гадоў. Згінуў ў аўтакатастрофе.

## ПЕРАВЫБАРЫ ЗБВБ

У чэрвені адбыўся ў Лёндане чарговы Зьезд ЗБВБ. Старшынёй перавыбраны Я. Міхалюк, Заступнікам А. Жданковіч, Сакратаром П. Асіповіч, Сябрам — М. Сенька. З прывітальным словам выступіў Апостальскі Візытатар для Беларусаў-Каталікоў — а. Аляксандар Надсан. Вячэрнюю Богаслужбу адслужыў Апостальскі Візытатар з іншымі айцамі ў Вуніяцкай Капліцы, пачым адбыўся Банкет.

## ЗЬЕЗД БКК

2-га чэрвеня адбыўся ў Саўт Рывэры — ЗША Зьезд Беларускага Кангрэсовага Камітэту Амэрыкі. Старшынёй па памёрлым Іване Касяку выбраны Расьціслаў Завістовіч, Намесьнікамі: 1. Кастусь Мярляк, 2. Міхась Бахар, 3. Міхась Сенька і 4. Па Справах Культуры — Ірэна Рагалевіч-Дутко. Л. Высоцкі — Скарбнік.

Пастаноўлена прыняць удзел /першы раз/ у сустрэчы Беларусаў, ладжаных пэзўдабэнэраўцамі ў Кліўлэндзе /БАЗА і ЗБК/, а такжа запрасіць новую мастацка-сцэнічную групу з БССР.

## ПАДЗЯКА

Беларусам: Таронта, Саскатуну, Гамільтону, Брантфорду, Стратфорду, Скарборо, Місасагі і Кальгары ў Канадзе, Чыкага, Нью Ёрку, Трэнтону, Іст Брансьвіку, Нью Брытэн, Сан Пітэрсбург, Нью Гэвэн, Брансьвіку, Сан Анжэлес, Кліўлэнду, Катэвэй, Сан Францыска ў ЗША і Мэльбурну, Аўстралія — шчыры дзякуй за дасланыя грошы на газэту. Імянна падаём дасланыя ахвяры выжэй 20 даляраў.

М. Хмаранка — $850 /з нагоды 85-цігодзьдзя Галоўнага Радактара/, Пяткун — $100, Ракуць — $75, В. Трэска — $50, Гуз — $40, Манькоўскі — $35, Суслоў — $30, Руцкі — $26, Змагар — $23.

Яшчэ раз вялікі дзякуй за прысланыя ахвяры! Усіх, хто яшчэ не надасдаў ахвяр на падтрымку найстарэйшага нашага эміграцыйнага часопісу, просім зрабіць гэта не адкладаючы. Ад гэтага залежыць далейшы выхад нашае газэты.

**Радакцыя і Адміністрацыя**